№17(41)
Верасень 1999

# Права на волю

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



Так дзейнічалі міліцыянты супраць дэманстрантаў у цэнтры Мінску да падпісаньня дэкрэту №36

# Перастрахоўка

### Спыніць актывізацыю восеньскіх масавых акцыяў апазіцыі супраць рэжыму Аляксандр Лукашэнка спрабуе з дапамогай новых парушэньняў правоў чалавека

Восень у Беларусі сёлета пачалася страйкамі прадпрымальнікаў і рабочых буйных дзяржаўных прадпрыемстваў, мітынгамі і шэсьцямі апазіцыі. Незадавальненьне народа сваім жыцьцём дасягнула той рысы, за якой асобныя акцыі пратэсту могуць зьліцца ў адзіную магутную плынь. І стаў рэальным абвешчаны апазіцыяй намер вывесьці 17 кастрычніка на вуліцы Мінску 100 тысяч незадаволеных існуючым ладам людзей...

Гэтую пагрозу першымі адчулі ўлады. Аднак паколькі эканамічных мажлівасьцяў рэальна палепшыць жыцьцё людзей ні ва ўрада, ні ў А.Лукашэнкі няма, то ў іх застаецца адзіны шлях — запалохваньняў і забаронаў. 9 верасьня А.Лукашэнка падпісаў дэкрэт №36 пад назовам: "Аб некаторых мерах па прадухіленьні надзвычайных здарэньняў пры правядзеньні масавых мерапрыемстваў". Фармальна ўлады тлумачаць зьяўленьне дэкрэта клопатам пра тое, каб не паўтарылася трагедыя падобная той, што здарылася 30 траўня на Нямізе. Аднак больш блізкае знаёмства з новым "дакументам" дазваляе сьцьвярджаць, што ягоныя мэты іншыя. Бо, паводле дэкрэту, забараняецца правядзеньне любых масавых мерапрыемстваў бліжэй за дзьвесьце метраў ад станцыяў метро... Акрамя таго, больш жорсткімі сталі патрабаваньні да арганізатараў мерапрыемстваў і да кіраўнікоў, якія абавязаныя даваць дазвол на іх правядзеньне. Рашэньне пра дазвол на правядзеньне мерапрыемства, у якім будзе ўдзельнічаць больш за 1500 чалавек, павінен прымаць " кіраўнік абласнога, Мінскага гарадзкога выканаўчага камітэту альбо яго намесьнік". Такім чынам, адзін чалавек сваім валявым рашэньнем можа забараніць любую акцыю.

Каментуючы гэты дэкрэт, апазіцыйныя палітыкі гавораць аб новым наступе ўладаў на дэмакратыю ў Беларусі. Дэкрэт абмяжоўвае канстытуцыйныя правы грамадзянаў Беларусі на свабоднае волевыяўленьне, на свабоду мітынгаў, дэманстрацый, шэсьцяў. Кіруючыся гэтым дэкрэтам, чыноўнікі калі і будуць дазваляць акцыі апазіцыі, дык у самых транспартна-нязручных і далёкіх "ад людзкога вока" мясьцінах. Між тым за гады правядзеньня апазіцыйных масавых акцыяў ніякіх эксцэсаў не адбывалася, акрамя тых выпадкаў, калі самі ўлады правака-

(Працяг на стар. 3)

## Хроніка

***20 жніўня*** **ў цэнтры Мінску (у скверы на плошчы Свабоды) міліцыя распачала беззаконныя дзеяньн. Іх аб'ектам стала нестандартна апранутая моладзь і хлопцы з доўгімі валасамі: гэтак званыя "валасацікі". Супрацоўнікі міліцыі ў службовай форме ў і цывільным заганялі маладых людзей у аўтобус "Ікарус". У аўтобусе пачаўся вобыск, падчас якога супрацоўнікі міліцыі сьвядома прыніжалі людзей. Асабліва мусіравалася тэма гомасексуалізму. Усе затрыманыя былі дастаўленыя ў РАУС, дзе ў іх узялі адбіткі пальцаў, праверылі дакументы і склалі надуманыя пратаколы: "Пры затрыманьні хістаўся з боку ў бок, мова была неразборлівая". Свае дзеяньні супрацоўнікі міліцыі патлумачалі тым, што праводзіцца "агульнагарадзкая аперацыя", і дакументам "нельга давяраць".**

***27 жніўня*** **ў г.Маладзечна (Мінская вобл.) "Беларуская музычная альтэрнатыва" і маладзечанскі маладзёжны клуб "Грунвальд" арганізавалі рок-канцэрт пад дэвізам "Моладзь за Беларусь!" На канцэрт сабраліся аматары айчыннага року з усёй Мінскай вобласьці. Дазвол на яго правядзеньне далі гарадзкія ўлады. Аднак адразу пасьля пачатку канцэрту міліцыянты акружылі пляцоўку, на якой ён праводзіўся. "Хапун" у Маладзечне ніколькі не саступаў падобным акцыям мінскай міліцыі. Былі арыштаваныя арганізатары імпрэзы з маладзечанскага боку С. Юркевіч і Д. Дасюкевіч, каардынатар праектаў БМА В. Супрановіч, саліст гурта "Happy Fase" Я.Пракаповіч і шмат падлеткаў, якія прыйшлі на рок-канцэрт. На пытаньне: "За што арыштоўваеце?" міліцыянты адказвалі сваім "жартам": "Калі б было за што, дык увогуле забівалі б..."**

(Працяг на стар.6-7)

# Сьцяг таптали міліцыянты...

У скверы Янкі Купалы ў Мінску 7 верасьня павінна была адбыцца акцыя Беларускай Партыі Свабоды з нагоды сьвята Беларускай вайсковай славы, якое адзначаецца 8 верасьня. Прыкладна ў 19.00 у парку перад помнікам Янкі Купалы сабралася больш за сотню чалавек. Было шмат моладзі, прысутнічалі прадстаўнікі незалежнай прэсы, вядомыя мастак Алесь Пушкін і паэт Славамір Адамовіч. Ніхто з прысутных не трымаў плакатаў, сьцягоў, не выкрыкваў ніякіх лозунгаў.

Праз некалькі хвілінаў зьявіліся супрацоўнікі міліцыі. Яны адразу падыйшлі да Славаміра Адамовіча, які даваў аўтографы на сваіх кнігах вершаў. На вачах прысутных без ніякіх тлумачэньняў супрацоўнікі міліцыі заламалі рукі С. Адамовічу і сталі цягнуць яго ў падагнаны міліцэйскі аўтобус. Аперацыяй затрыманьня кіраваў маёр АМАПу. На патрабаваньні С. Адамовіча, журналістаў і назіральнікаў Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" назвацца і растлумачыць прычыны арышту, міліцыянты не зьвярталі ўвагі. Вакол Славаміра Адамовіча сабраліся людзі, якія пачалі перашкаджаць яго затрыманьню. На дапамогу міліцыі прыбылі АМАПаўцы, адштурхнулі людзей, схапілі С. Адамовіча і пацягнулі яго ў аўтобус. Моладзь, якая прысутнічала ў парку, тым часам падпаліла дзяржаўны сьцяг Расійскай Федэрацыі. Супрацоўнікі міліцыі кінуліся тушыць агонь і шчыра таптали нагамі расійскі сьцяг пад дружныя воплескі і сьвіст прысутных.

Калі людзі пачалі разыходзіцца, супрацоўнікі міліцыі, якія фіксавалі ўсё што адбывалася на некалькі відэакамераў, у розных месцах гораду сталі затрымліваць тых, хто прысутнічаў пры арышце С.Адамовіча і спаленьні расійскага сьцягу. На Кастрычніцкай плошчы быў арыштаваны журналіст газеты "Беларуская маладзёжная" Сяргей Чырык, які меў пры сабе відэакамеру і рабіў здымкі ў скверы. Пры затрыманьні ён паказаў сваё журналісцкае пасьведчаньне, але, нягледзячы на гэта, супрацоўнікі міліцыі яго затрымалі і адвезьлі ў Цэнтральны РАУС г.Мінску, дзе ў яго безпадстаўна адабралі відэакамеру і адзьнятую відэакасэту. У Цэнтральным РАУСе знаходзіўся і Славамір Адамовіч. Яго пратрымалі да адзінаццатай гадзіны вечара і, склаўшы пратакол аб адміністратыўным прававарушэньні па арт. 167.1 ч.2 КаАП РБ, адпусьцілі дахаты. Усяго ў гэты дзень было затрымана 7 чалавек, сярод якіх 5 сяброў Беларускай Партыі Свабоды.

**Інфармацыйны аддзел "Вясны-96"**



**Міліцыянты праводзяць "аперацыю" па затрыманьні Славаміра Адамовіча**

# За што затрымалі і абрабавалі?

**У Беларускую Асацыяцыю Журналістаў**
**У Цэнтр прававой абароны журналістаў БАЖ**
**фотавідэакарэспандэнта газеты "Беларуская маладзёжная" Чырыка С.І.**

*Заява.*

7верасьня я, Чырык Сяргей Іванавіч, па заданьні рэдакцыі прысутнічаў на несанкцыянаванай гарадзкімі уладамі акцыі, якую праводзіла Партыя Свабоды ў скверы каля помніку Янку Купалу, і рабіў відэаздымкі. Пасьля таго, як усё скончылася, я разам са знаёмымі журналістамі з іншых выданьняў: Мікалаем Халезіным, Дзьмітрыем Бандарэнкам, Уладзімірам Пацам і інш. пайшоў па праспекце Францішка Скарыны ў накірунку Кастрычніцкай плошчы. На плошчы каля міжнароднага перагаворнага пункту сувязі каля нас спынíўся міліцэйскі УАЗік, адкуль выскачылі некалькі супрацоўнікаў міліцыі. Людзі ў міліцэйскай форме з крыкам: "Бярыце вунь таго, з камерай!" накінуліся на мяне і пацягнулі ў машыну. Спроба прысутных журналістаў абараніць мяне ні да чаго не прывяла, на журналісцкія пасьведчаньні міліцыянты не рэагавалі. Мяне за шыю ўцягнулі ў машыну і павезьлі назад да скверу Янкі Купалы. Усю дарогу аператыўнік у цывільным, як я зразумеў з размовы — супрацоўнік крымінальнага вышуку, трымаў мяне за шыю, не даючы нават павярнуцца.

Каля скверу мяне хвілінаў дваццаць трымалі ў гэтай машыне, потым перасадзілі ў іншую, адабраўшы камеру. У гэтую ж машыну падсеў супрацоўнік міліцыі ў парадная форме маёра, які пацікавіўся, ці бачыў я, хто падпальваў расійскі сьцяг, і ці зьняў я гэты момант. Я адказаў, што ў гэты час знаходзіўся далёка ад месца дзеяньня і зьняць не пасьпеў. Сказаў, што і сама акцыя была, па маім меркаваньні, абыяк арганізаваная, што калі б не дурная актыўнасьць міліцыянтаў па затрыманьні Славаміра Адамовіча, які проста стаяў у баку і нічога не рабіў, ніякай цікавасьці падзея не ўяўляла б. Пасьля гэтага маёр выйшаў з машыны на нейкі час, відаць, каб параіцца з кіраўніцтвам, потым прынёс камеру і сказаў, што я вольны.

Адыйшоўшы да больш асьветленага месца, бо там, дзе знаходзілася машына было зусім цёмна, я праверыў камеру і ўбачыў, што мая відэакасета TDK SVHS, коштам каля 5 мільёнаў рублёў, ня лічачы адзьнятых на ёй унікальных матэрыялаў, замененая на касету Gold-Star VHS , коштам ня больш за 800 тысячаў рублёў. Я вярнуўся назад, падыйшоў да маёра. На мае словы маёр нічога не адказаў, а, паклікаўшы з сабою некалькі міліцыянтаў, сеў у машыну і паехаў. Ужо дома я пагледзеў пачатак "падоранай" мне касеты. На ёй аказалася "пірацкая" копія фільму "Апошні крыжовы паход".

Прашу Цэнтр прававой абароны журналістаў абараніць мае прафесійныя правы і даць прававую ацэнку дзеяньням органаў міліцыі, якія перашкаджалі выкананьню маіх журналісцкіх абавязкаў, якія зьдзейснілі шляхам падмены крадзёж касеты з адзьнятым матэрыялам. Гэтымі дзеяньнямі мне нанесеныя матэрыяльныя і маральныя страты, а газета выйшла без здымкаў падзеі...

Прашу Цэнтр прававой абароны журналістаў зьвярнуцца з адпаведным запытам у органы пракуратуры, праваабарончыя структуры і арганізацыі, у тым ліку і міжнародныя, бо лічу тое, што адбылося са мною, яшчэ адным фактам парушэньня правоў чалавека і свабоды слова.

**С.І.ЧЫРЫК**

*8 верасьня 1999 г.*

# «Яны хочуць нас запалохаць,»

## — так гаворыць 20-гадовы мінчук Яўген Асінскі, які пасьля арышту за ўдзел у апазіцыйнай акцыі 27 ліпеня быў арыштаваны і правёў у зьняволеньні 38 сутак.

*Яўген Асінскі быў затрыманы 27 ліпеня пасьля заканчэньня шэсьця, прысьвечанага Дню Незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, па падазраньні ў зьдзяйсьненьні гвалтоўных дзеяньняў супраць супрацоўнікаў міліцыі.*
*Першапачаткова Я.Асінскаму было прад'яўленае абвінавачаньне па арт. 201 ч.2 Крымінальнага Кодэксу Рэспублікі Беларусь (злоснае хуліганства). Гэты артыкул прадугледжвае да 5 гадоў пазбаўленьня волі. Пасьля прад'яўленьня абвінавачаньня Я.Асінскі быў пераведзены ў СІЗА г.Мінску. 3-га верасьня мера стрыманьня ў адносінах да Яўгена Асінскага была зьмененая — адвакат здолеў давесьці, што падчас сьледзтва былі дапушчаныя грубыя парушэньні Працэсуальна-Крымінальнага Кодэксу, — у выніку Яўгена Асінскага выпусьцілі пад падпіску аб нявыезьдзе. Зьмяніліся таксама і артыкулы Крымінальнага Кодэксу, паводле якіх абвінавачваецца Я. Асінскі.*
*Яўген Асінскі нарадзіўся ў 1978 г. на Украіне ў вёсцы Самгарадок Віньніцкай вобласьці. Пасьля сьмерці бацькі маці з дзецьмі вярнулася на радзіму — у Беларусь. Я.Асінскі скончыў школу ў г. Мінску, пасьля школы — політэхнічны тэхнікум па сьпецыяльнасьці мантаж электраапаратуры. Служыў у войску. Прыйшоў з войска ў сьнежні 1998 г., працуе па сьпецыяльнасьці — электрамантажнікам.*
*Нашая сустрэча з Яўгенам Асінскім адбылася ў Праваабарончым Цэнтры «Вясна-96».*


Яўген АСІНСКІ

***— Яўген, як даўно ты ўдзельнічаеш у акцыях апазіцыі?***

— Увесну 1996-га году, яшчэ да службы ў войску, я далучыўся да ўдзелу ў мітынгах, шэсьцях, якія наладжвае апазіцыя. Я жыву ў Беларусі з двух гадоў, адчуваю сябе беларусам, і мне балюча назіраць, як у маёй краіне разбураюцца дэмакратычныя інстытуты, парушаюцца правы чалавека, вынішчаюцца мае родныя мова, культура, гісторыя... Сумленьне не дазваляе мне, разумеючы ўсё гэта, спакойна сядзець дома.

***— Цябе калі-небудзь раней затрымлівалі падчас палітычных акцыяў?***

— Мяне ні разу не затрымлівалі... Я, вядома, ведаў, што гэта можа здарыцца. Але спадзяваўся (як і гэтым разам), што мяне "хапун" абміне.

***— Раскажы пра падзеі 27-га ліпеня, калі цябе арыштавалі.***

— Міліцыянты спынілі калону дэманстрантаў, у якой я ішоў, сталі ў ланцуг і пачалі націскаць на нас. Дубінкі свае павыцягвалі. Я ўбачыў, як міліцыянт замахнуўся на аднаго спадара... Пасьля мітынгу, як звычайна, мы пачалі разыходзіцца. Цяпер я разумею, што за мною сачылі людзі ў цывільным. Яны затрымалі мяне ў метро на станцыі «Плошча Перамогі». Падыйшлі, паказалі свае дакументы і сказалі, каб «бяз крыку» ішоў з імі. Я пагадзіўся, супраціўленьня не аказваў, спакойна пайшоў з гэтымі людзьмі. Мяне завялі ў аддзяленьне міліцыі на станцыі метро і там пачалі зьбіваць. Яны зьбівалі мяне і казалі: «Што, ня любіш прэзідэнта?» Потым выклікалі міліцэйскую машыну і адвезьлі ў РАУС Савецкага раёну. Там пачаўся допыт. Пры допыце мяне таксама зьбівалі. Яны патрабавалі ад мяне прызнаньня віны. Хацелі, каб я прызнаўся ў тым, што нібыта ўдарыў міліцыянта нагой. Ноччу мяне павезьлі ў сьпецпрыёмнік-разьмеркавальнік. Там я пераначаваў, раніцай зноў павезьлі ў Савецкі РАУС, адтуль у кайданках перадалі ў Цэнтральны. Потым перавезьлі ў ІЧУ (ізалятар часовага ўтрыманьня).

***— Якія ўмовы ўтрыманьня ў ІЧУ?***

— Там у камерах ложкі без матрасаў, кормяць адзін раз у суткі. Але я і на гэты "адзін раз" не патрапіў. Так атрымалася, што я трое сутак нічога ня еў, не кармілі. У камеры са мной знаходзіўся камерсант, які не сказаў, за што яго затрымалі, і хлопец 14 гадоў, які нешта ўкраў. Пасьля трох сутак у ІЧУ мяне зноў прывезьлі ў Цэнтральнае аддзяленьне міліцыі і там, ужо ў прысутнасьці адвакатаў, я даў паказаньні. Мне абралі меру стрыманьня — заключэньне пад варту. Я спадзяваўся, што мяне адпусьцяць пад падпіску аб нявыезьдзе. Аднак мяне завезьлі на "Валадарку", і там я прасядзеў больш за месяц.

***— Якія ўражаньні ад "Валадаркі"?***

— Жыць можна... Я думаў, што Валадарка на самой справе страшней, што там зэкі ды іншае... А яны, зьняволеныя, крымінальнікі, нармальна да мяне паставіліся. У нашай камеры было 18 чалавек. Людзі розныя — ад майго ўзросту і да 50 гадоў. Мяне паважалі ў камеры. Там сапраўды ня любяць Лукашэнку.

***— Чаго ты больш за ўсё хацеў?***

— Вярнуцца дадому! Больш за ўсё я хваляваўся за маці — у яе слабое сэрца. Яна вельмі перажывала за мяне.

***— Твая маці сказала: на спатканьні ты гаварыў, што ад сваіх поглядаў не адмаўляешся. Гэта сапраўды так?***

— Так!

***— Як ты думаеш, чаму 27-га ліпеня цябе затрымалі?***

— Гэта было зроблена дзеля таго, каб запалохаць іншых людзей. Каб яны прачыталі ў газетах, што ёсьць затрыманыя, што нехта трапіў на "Валадарку", і баяліся ісьці на наступны мітынг, каб думалі, што і іх у любы момант на апазіцыйнай акцыі могуць затрымаць і пасадзіць.

**— Што цябе чакае цяпер?**

— Суд будзе ў канцы верасьня. Мяне будуць судзіць па артыкуле 186 частка 3 і артыкуле 189 частка 2 — за парушэньне грамадзкага парадку і супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі. Гэтыя артыкулы прадугледжваюць да 3 гадоў пазбаўленьня волі. Але я спадзяюся на справядлівы суд.

**Гутарыла Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

# Перастрахоўка

*(Пачатак на стар. 1)*

валі канфліктныя сітуацыі. Гэта агульнавядома.

Пра тое, што ўлады баяцца "гарачай беларускай восені", сьведчыць і той факт, што яны ў сваіх інтарэсах скарыстоўваюць нават ваенныя дзеяньні, якія вядуцца зараз далёка за межамі Беларусі ў суседняй дзяржаве. Намесьнік старшыні Мінгарвыканкаму В. Чыкін даслаў 14 верасьня актывістам грамадзкага аб'яднаньня ў абарону былога прэм'ер-міністра Міхаіла Чыгіра, які цяпер знаходзіцца ў турме, паведамленьне, што выдадзеныя ім раней дазволы на правядзеньне пікетаў ануляваныя ў сувязі "з абвастрэньнем грамадзка-палітычнага становішча ў саюзнай дзяржаве"... Пад гэтую марку, ды яшчэ з дапамогаю дэкрэту №36 і даўно прынятага лукашэнкаўскім парламентам Закону "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні" можна забараніць цяпер любое мерапрыемства, а арганізатараў яго абвінаваціць у экстрэмізме і пасадзіць...

**Андрэй НАЛІВА**

# Хто вызначыць кошт жыцьця?

***5 жніўня ў судзе Маскоўскага раёну г.Мінску адбыўся разгляд грамадзянскага зыску чатырох істцоў: Ніны Іньковай (маці Машы Іньковай, 1983 г.н., якая загінула 30 траўня), Натальлі Навакоўскай (маці Аляўціны Навакоўскай, 1983 г.н., якая загінула 30 траўня), Вольгі Янцовай (маці Алены Янцовай, 1983 г.н., якая загінула 30 траўня) і Вячаслава Чабаняна (атрымаў 30 траўня чэрапна-мазгавую траўму).***

Зыск быў прад'яўлены да Мінгарвыканкаму і ГУУС Мінгарвыканкаму. Трэцімі асобамі выступалі радыёкампанія "Мір", АТ "Аліварыя" і "Класс-клуб Джас-Крафт" (прадстаўнік апошняга не зьявіўся).

Прадстаўнікамі законных інтарэсаў істцоў выступалі юрысты грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву". Інтарэсы Ніны Іньковай у працэсе прадстаўляў Алег Воўчак — былы сьледчы пракуратуры, ветэран вайны ў Афганістане. Варта нагадаць, што зусім нядаўна (21 ліпеня) Алег Воўчак быў затрыманы міліцыянтамі пасьля народных гуляньняў з нагоды заканчэньня прэзідэнцкіх паўнамоцтваў А.Лукашэнкі і моцна (да страты прытомнасьці) зьбіты ў будынку Маскоўскага РАУСу. Па словах сьведкаў, міліцыянты зьдзекліва называлі Воўчака "пракурорам", а ў РАУСе пры зьбіцьці гучна грала музыка, каб заглушыць гукі катаваньняў.

На судзе прозьвішча Алега Воўчака выклікала агрэсіўнае непрыняцьце ў чыноўнікаў. Прадстаўнікі Мінгарвыканкаму і ГУУС Мінгарвыканкаму выказаліся супраць удзелу Алега Воўчака ў працэсе на падставе таго, што ён быў дэпутатам гарсавету. Судзьдзя Гусакова адхіліла гэтае хадайніцтва чыноўнікаў і дапусьціла Алега Воўчака да ўдзелу ў працэсе.

Гэты выпадак пракаметаваў юрыст Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" Валянцін Стэфановіч: "Прадстаўнік гарвыканкаму заявіў хадайніцтва аб адводзе А.Воўчака ад удзелу ў працэсе на той падставе, што ён быў дэпутатам гарсавету. Гэта — абсалютна незаконна. Ну і што з таго, што ён быў дэпутатам? У Грамадзянскім працэсуальным кодэксе ёсьць пералік асобаў, якія ня могуць быць прадстаўнікамі: недзеяздольныя, не дасягнуўшыя 18 гадоў і. г.д. Але ж там не сказана, што дэпутат гарсавету ня можа быць прадстаўніком законных інтарэсаў істцоў у грамадзянскім працэсе".

Было відавочна, што чыноўнікі не зьбіраюцца адказваць па законе за сваю злачынную непрафесійнасьць. Прадстаўнік ГУУС Мінгарвыканкаму Радомскі заявіў хадайніцтва аб тым, што слуханьне па грамадзянскай справе павінна быць перапыненае ў сувязі з тым, што ўзбуджаная крымінальная справа па факце трагедыі 30 траўня 1999 году, вядзецца сьледзтва, і суд ня можа вызначыць ступень віны адказчыкаў дзеля таго, каб кампенсаваць маральныя страты. Прадстаўнікі істцоў адхілілі хадайніцтва прадстаўніка гарвыканкаму, заявілі, што суд мае права ў працэсе заслухаць непасрэдна бакі, сьведкаў, высьветліць грамадзянскую віну і спагнаць матэрыяльную кампенсацыю маральных стратаў. Судзьдзя Гусакова спыніла працэс і пайшла ў дарадчы пакой.

Перапынак быў доўгі. У перапоўненай зале суда былі бацькі, родныя і сябры тых, хто загінуў, журналісты, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў. Падчас перапынку бацькі паказвалі адзін аднаму фотаздымкі сваіх дзяцей, тыя, хто быў не знаёмы паміж сабою, — знаёміліся. Гучалі пытаньні: "А ў вас хто? А чыя вы мама?" А яшчэ распавядалі сны...

Перапынак скончыўся, зьявілася судзьдзя Гусакова і абвясьціла рашэньне пра тое, што немагчыма на сёньняшні момант вызначыць долю віны і віну адказчыкаў, таму разгляд грамадзянскага зыску чатырох істцоў будзе перапынены да заканчэньня крымінальнай справы, пакуль ня зьявяцца вынікі крымінальнай справы.

Бацькі загінуўшых дзяцей былі абураныя вынікам судовага пасяджэньня, яны ў чарговы раз пераканаліся, што ўлады наўмысна цягнуць час, каб урэшце абвясьціць: "вінаватых няма"!

Гаворыць Натальля Навакоўская: "Напярэдадні мы азнаёміліся са справай і ведалі, што ёсьць хадайніцтва-прапанова ГУУС Мінгравыканкаму аб прыпыненьні працэсу. А таму тое, што тут адбылося, не было для нас нечаканым. Але мы разьлічвалі на чыста чалавечыя пачуцьці і адносіны судзьдзі. Таму што кожны судзьдзя можа прыняць сваё ўласнае рашэньне. Чыста па чалавечы гэта можна было

# Валютная гісторыя



## Рэаліі нашага жыцьця

"24 траўня 1998 г. я была моцна зьбітая супрацоўнікамі Полацкага ГРАУС. У бальніцах Полацку і Віцебску адляжала 1,5 месяцы.

Канфліктная сітуацыя ўзьнікла пасьля таго, як супрацоўнікі міліцыі прымянілі супраць майго сына, Волчыка І. А., фізічную сілу і сьпецсродкі, надзелі кайданкі. Сын быў затрыманы па падазрэньні ў парушэньні Дэкрэту прэзідэнта № 1 (незаконны абмен валюты, — *С.П.*) Апраўданы быў сын Віцебскім абласным судом. Супрацоўнікамі ГРАУС былі парушаныя арт. арт. 19, 20 п. 4 Закону "Аб міліцыі" і Загад МУС № 5756, дзе ўказана, што фізічная сіла і сьпецсродкі прымяняюцца толькі ў выключных выпадках...

Пасьля таго, як мяне зьбілі, я напісала скаргу ў пракуратуру г. Полацку.

Пракуратурай Полацку супраць мяне была ўзбуджаная крымінальная справа па артыкулах: супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі, беспадстаўны данос, узьдзеяньне на супрацоўнікаў міліцыі.

Прысудам Полацкага суда ад 15 студзеня 1999 г. я была прызнана вінаватай за супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі, мяне аштрафавалі на 20 мільёнаў рублёў. Вызначэньнем калегіі па крымінальных справах Віцебскага абласнога суда ад 22 лютага 1999 г. прысуд быў пакінуты ў сіле. А да мяне прымянілі Закон "Аб амністыі" без маёй згоды.

Супраціўленьня супрацоўнікам міліцыі я не аказвала. Як мяне вялі па калідоры, заштурхнулі ў камеру, бачылі сьведкі, яны засьведчылі, што мне наносіліся ўдары па целу. Калі заштурхнулі ў клетку, я моцна ўдарылася галавой і страціла прытомнасьць. Гэтыя факты могуць пацьвердзіць высновы судмедэксьпертызы. Я адсядзела ў камеры без складаньня адміністратыўнага пратаколу.

Супрацоўнікамі міліцыі быў парушаныя арт. 25 Канстытуцыі РБ, а таксама арт. 16 Закону "Аб міліцыі" мяне пазбавілі волі без законных падставаў.

Сьведка Баруля, як сьпецыяліст, у судзе пацьвердзіў, што пагаршэньне майго стану здароўя (ціск 220-120) магло наступіць пасьля чэрапна-мазгавой траўмы.

Сьведка Каляга, якая выязджала па выкліку "хуткай дапамогі" на рынак для аказаньня мне медыцынскай дапамогі, паставіла мне дыягназ "бранхіяльная астма". Я астмай ніколі не хварэла і на ўліку ў паліклініцы не стаяла, а задыхалася я таму, што пасьля ўдару галавой аб сьцяну ў мяне падняўся ціск і адбылося зьмяненьне сасудзістай сістэмы (даведка з Віцебскай бальніцы).

...Выкладзеныя ў прысудзе паказаньні сьведкаў – супрацоўнікаў міліцыі, як зацікаўленых у справе асобаў, не пацьверджаныя пратаколамі аб маіх неправамерных дзеяньнях, якіх фактычна не было.

 

зрабіць. Але вы бачыце, якія былі прадстаўнікі — чыноўнікі Мінгарвыканкаму — ім усё чалавечае чужое. Яны ня хочуць ні з кім лічыцца, яны ўсё адхіляюць. Нават адмаўляюць тое, што мэр гораду падаваў у адстаўку. Але ж мы ўсе пра гэта чыталі.

Мы расчараваныя ў дзеяньнях судзьдзі. Я хачу сказаць, што мы на гэтым ня спынімся. Я сваю дачку гадавала ня дзеля таго, каб з ёй так абыйшліся. Яна піва піць не хадзіла. Яна пайшла на гэтае сьвята, таму што не магла сабе дазволіць хадзіць па элітных дыскатэках — мы людзі сярэдняга дастатку. Моладзь жа заўсёды імкнецца на сьвята...

Я не давяраю афіцыйнаму сьледзтву. Дакладней, я стала не давяраць! Справа ў тым, што я вельмі хацела азнаёміцца з матэрыяламі сьледзтва. Яшчэ задоўга да сарака дзён мне ў выканкаме далі тэлефон... Па гэтым тэлефоне я зьвязалася з палкоўнікам Валерыям Міхайлавічам Камароўскім, які вядзе сьледзтва. Мы з мужам да яго хадзілі, ён у шчырай размове сказаў, што ў яго там, на сьвяце, сын быў і літаральна за дзесяць хвілінаў сыйшоў. Сказаў, што паказаць нам усе матэрыялы сьледзтва ня можа — гэта таямніца. Паказаў нам толькі здымкі на лесьвіцы, як усе ляжалі. Я кажу яму: "Вось вы зараз усіх распытваеце, спытайце і пра маю дачку..." А ён мне адказвае: "Вы ведаеце, я не "распытваю", а "дапытваю". Я ўжо дапытаў усіх міліцыянтаў... Але я вам скажу, што законаў аб правядзеньні такіх мерапрыемстваў няма". У сьледчага ўжо склалася меркаваньне, што ніхто не вінаваты — стыхія. Таму я больш не давяраю афіцыйнаму сьледзтву. Тым больш яны ня хочуць знаёміць пацярпелых з матэрыяламі сьледзтва. Камароўскі патлумачыў гэта тым, што напрацягу двух месяцаў нельга знаёміцца з матэрыяламі, а калі сьледзтва скончыцца, тады будзе можна. Але зноў жа — не з усімі матэрыяламі. І яшчэ Камароўскі пры сустрэчы нам сказаў, што ў міліцыянтаў, калі яны зьявіліся на месцы трагедыі, рацыі былі наладжаныя на розныя частоты, таму яны не маглі скаардынаваць свае дзеяньні, не маглі ўявіць агульную карціну трагедыі.

Я хачу сказаць, што з кожным днём бацькі загінуўшых дзяцей усё шчыльней яднаюцца, набываюць моц. Усе жывуць у розных месцах, але прыязджаюць, прыходзяць, знаёмяцца паміж сабой, робяцца больш актыўнымі. Нам вельмі цяжка... Але мы будзем ствараць таварыства, якое будзе адстойваць нашыя інтарэсы".

Прадстаўнікі істцоў (юрысты грамадзкага аб'яднаньня "Прававая дапамога насельніцтву") зьбіраюцца абскардзіць рашэньне аб прыпыненьні, будуць дамагацца таго, каб суд усё ж пачаў разгляд грамадзянскага зыску, заслухаў усіх удзельнікаў працэсу, сьведкаў, вызначыў долю адказнасьці і вырашыў пытаньне па сутнасьці. Алег Воўчак сказаў, што супрацоўнікі міліцыі, якія вядуць сьледзтва, не жадаюць з імі размаўляць, яны дасылаюць запыты па тых ці іншых пытаньнях, і па КПК (Крымінальна -працэсуальным Кодэксе) прадстаўніку пацярпелага на працягу трох сутак павінны даць адказ, тут жа прайшло некалькі тыдняў — і ніякіх адказаў. Па ўсім відаць, што сьледзтва зарыентаванае на тое, што вінаватых у трагедыі ня будзе. Гэта значыць, на самай справе, што калі скончыцца крымінальная справа, а, як сказала на працэсе Натальля Навакоўская, яна можа цягнуцца і паўтары гады (сапраўды, мінімальны тэрмін — два месяцы, але пракурор мае права працягваць тэрмін, і сьледзтва можа зацягнуцца невядома наколькі), а потым сьледзтва прызнае, што вінаватых няма, і паколькі справа была перапыненая да заканчэньня крымінальнай справы, то скажуць: "Раз няма вінаватых, то вам няма на каго і зыск падаваць". Зразумела, што прадстаўнікі пацярпелых будуць дамагацца таго, каб грамадзянскі зыск разглядалі цяпер.

Пасьля заканчэньня судовага пасяджэньня Алег Воўчак тлумачыў Іньковым, што зараз склалася такая сітуацыя, калі невядома, якім будзе вынік. Усё залежыць ад сумленьня судзьдзі і ад сумленьня таго чалавека, які вядзе сьледзтва: калі ён будзе дзейнічаць самастойна — вынік будзе. А калі сьледчы і судзьдзя будуць слухацца "парадаў" высокага начальства, дык, зразумела, што справа будзе "пахаваная".

"Мы будзем абскарджваць рашэньне судзьдзі, — гаворыць Натальля Навакоўская. — Вы ж чулі, што бацькі зьбіраюцца далучыцца да нашых зыскаў. Гэты суд не канец — гэта толькі пачатак".

У чэрвені 1999 г. скульптар Міхаіл Іннькоў, дачка якога Маша загінула 30 траўня на Нямізе, зьвярнуўся ў Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96". Тады Міхаіл Інькоў сказаў: "Як можна вызначыць, колькі каштуе жыцьцё чалавека? Колькі, напрыклад, каштаваў бы Марк Шагал, калі б яго ў 15 гадоў затапталі? У мяне была вельмі таленавітая дачка: мастацкія здольнасьці неверагодныя... Дзіця маё затапталі ў 15 гадоў. Хто ж вызначыць цяпер кошт ягонага жыцьця?"

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

*P.S.* 6 верасьня калегія па грамадзянскіх справах Мінскага гарадзкога суда пакінула бяз зьменаў рашэньне суда Маскоўскага раёну па зыску бацькоў, дзеці якіх загінулі ў пераходзе станцыі метро «Няміга». Рэспубліканская пракуратура працягнула тэрмін крымінальнага расьсьледваньня па справе, узбуджанай па факце трагедыі, да 30



...Крымінальная справа супраць мяне была ўзбуджаная пасьля маёй скаргі ў пракуратуру, праведзенай пракурорскай праверкі.

Сьледчы Расонскай пракуратуры Маляўка не дапускаў удзелу адваката ў сьледчых дзеяньнях, прад'явіў абвінавачаньне толькі перад азнаямленьнем са справай.

Пракурор г. Полацку падаў касацыйны пратэст па справе, хаця па закону ня мог гэтага рабіць. Зараз мая наглядная скарга знаходзіцца ў Вярхоўным судзе РБ, дай Бог, вядома, каб не было адпіскі, але мяне і там выслухаць не захацелі...

Супрацоўнікі міліцыі, якія аднялі ў мяне палову здароўя (я зараз стаю на ўліку ў паліклініцы), атрымалі павышэньне па службе.

Прашу дапамагчы мне разабрацца і знайсьці хоць нейкую справядлівасьць.

*Дзенішчук Лідзія Іванаўна"*

Заключэнне эксьперта.

На падставе пастановы сьледчага пракуратуры Жамойта В.І. ад 25 мая 1998 г. су-медэксьперт Хвашчэўскі В.В. Пры эксьпертызе прысутнічалі: фельчар Зьмітрачонак Л.Р.

Абставіны справы.

У пастанове ўказана, што 24 траўня 1998 г. прыкладна ў 11 гадзінаў у памяшканьні Полацкага рынку ў пакоі міліцыі Дзенішчук Л.І. была зьбітая супрацоўнікамі міліцыі, зьбівалі тры супрацоўнікі міліцыі і нанесьлі адзін удар нагой па сьцягну каля калена...

Высновы:

Мяркуючы па дадзеных прадстаўленых медыцынскіх дакументаў, улічваючы вынікі медыцынскага агляду, у грамадзянкі Дзенішчук Л.І. мелі месца: закрытая чэрапна-мазгавая траўма са зрушэньнем мазгоў, крывападцёкі лобнай вобласьці справа, вобласьці правага плечавога суставу, правага пляча... Гэтыя пашкоджаньні ўзьніклі ад дзеяньняў тупых прадметаў, магчыма, у тэрмін, які не супярэчыць указанаму ў пастанове, і падпадаюць пад катэгорыю лёгкіх цялесных пашкоджаньняў, якія пацягнулі за сабой кароткачасовае пашкоджаньне здароўя".

"Полацкая гарадзкая паліклініка. Даведка № 627. Выдадзена Дзенішчук Лідзіі Іванаўне...

Дыягназ: гіпертанічная хвароба ІІ ступені, вынікі чэрапнамазгавой траўмы з мікрасімптаматыкай і вегетасасудзістай недастатковасьцю. Знаходзіцца пад наглядам паліклінікі з 1986 г. па іншых захворваньнях: язьвенная хвароба, хранічны халецыстыт, па бранхіяльнай астме, ішэмічнай хваробе сэрца – не назіраецца".

"Віцебская абласная клінічная бальніца. Даведка.

Выдадзеная Дзенішчук Лідзіі Іванаўне ў тым, што яна знаходзілася на абсьледаваньні і лячэньні з 16.06.98. па 8.07.98. з нагоды гіпертанічнай хваробы ІІ ст. Вынік ЧМТ з мікрасімптаматыкай і вегетасасудзістай недастатковасьцю".

(Працяг на стар. 7)





 

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*З 1 верасьня* ўступіў у дзеяньне падпункт 1.22 пункту 1 дэкрэту прэзідэнта РБ ад 4 жніўня 1997 г. № 14, у якім сказана: "Набытыя альбо рэалізаваныя ў парушэньне ўсталяванага парадку (без наяўнасьці суправаджальных дакументаў альбо дакументаў, якія пацьвярджаюць якасьць прадуктаў, а таксама пры наяўнасьці неадпаведных рэчаіснасьці дакументаў) таварна-матэрыяльныя каштоўнасьці падлягаюць канфіскацыі ў даход рэспубліканскага бюджэту. Калі нехта захоча прадаць свой тавар, ён абавязаны будзе прайсьці сертыфікацыю па арганалептычных прыкметах (на колер, пах і смак). Калі прадавец паспрабуе прадаць свой тавар без сертыфікацыі, яго тавар проста канфіскоўваецца ў даход рэспубліканскага бюджэту. Канфіскаваныя ў прадпрымальнікаў тавары прадаюцца дзяржавай з адзнакай "тавар не сертыфікаваны". Дзяржава зарэзвізавала сабе права не сертыфікаваць тавар, калі гэта эканамічна ня выгадна: калі затраты на сертыфікацыю перавышаюць плануемы даход. У дадзеным выпадку мае месца парушэньне Канстытуцыі Беларусі — арт.13, які гарантуе роўныя правы для ажыцьцяўленьня гаспадарчай дзейнасьці для ўсіх формаў уласнасьці. У сувязі з гэтым дэкрэтам з 1 верасьня аб'явілі бестэрміновы страйк прадпрымальнікі-гандляры большасьці рынкаў краіны. Паводле паведамленьняў друку, з 1 верасьня не працавала да 75 працэнтаў прыватных гандляроў краіны з рынкаў Мінску, Гродна, Віцебску, Наваполацку, Полацку, Оршы, Пінску і іншых буйнейшых гарадоў Беларусі.

*2 верасьня* ў судзе Ленінскага раёну г.Мінску адбыўся суд над Яўгенам Афнагелем, які абвінавачваўся, нібыта, ва ўдзеле ў несанкцыянаваным шэсьці 21 ліпеня пад час "Провадаў Лукашэнкі". 21 ліпеня Я.Афнагель ня быў затрыманы супрацоўнікамі міліцыі, пратакол аб правапарушэньні на яго не складаўся, і толькі 23 жніўня яму дахаты прынесьлі позву ў суд Ленінскага раёну да судзьдзі Жданок. Толькі ў судзе Я.Афнагель



8 верасьня 1999 году ў Мінску

даведаўся, што на яго складзены пратакол аб правапарушэньні, на якім не было даты і было напісана, што ён адмовіўся ад падпісаньня пратаколу. На суд па просьбе Я.Афнагеля быў дапушчаны грамадзкі абаронца ад Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96" Барыс Гюнтэр. Судзьдзя адхіліў хадайніцтва Б.Гюнтэра аб накіраваньні пратаколу ў міліцыю, чым парушыў закон. Пад час судовага разьсьледваньня высьветлілася, што спадар Я.Афнагель у несанкцыянаваным шэсьці па праспекце Ф.Скарыны ня ўдзельнічаў, а проста гуляў па праспекце і выпадкова патрапіў у аб'ектыў тэлекамеры міліцыянтаў. Сьведкамі на судовым працэсе выступалі толькі міліцыянты Ленінскага РАУСу. Яны блыталіся ў сваіх паказаньнях. Адзін з іх, Грыцкевіч, сказаў, што Я.Афнагель быў затрыманы, і ён сам складаў рапарт пра гэта ў яго прысутнасьці. Судзьдзя, нягледзячы на відавочныя супярэчнасьці, пакараў Я.Афнагеля 12 суткамі арышту.

*3 верасьня* пад падпіску аб нявыезьдзе быў адпушчаны са сьледчага ізалятару Яўген Асінскі. Ён быў пратрыманы ў зьняволеньні 38 дзён за ўдзел у апазіцыйнай акцыі. Сьледства зьмяніла артыкулы абвінавачаньня. Замест арт. 201 ч.2 КК РБ (злоснае хуліганства) цяпер гэта: 186.3 (актыўны ўдзел у групавых дзеяньнях, якія парушаюць грамадзкі парадак) і 189 ч.2 (пагроза ці гвалт у адносінах да супрацоўніка міліцыі... у сувязі з выкананьнем ім службовых абавязкаў), што пагражае Я. Асінскаму зьняволеньнем да трох гадоў.

*3 верасьня* ў мінскім мікрараёне "Маліноўка" адбываўся санкцыянаваны пікет, які праводзілі актывісты "Хартыі-97" пад лозунгам "Дыктатуры капец!" На пікеце прысутнічалі вядомыя палітыкі, сярод якіх быў і намесьнік старшыні БНФ "Адраджэньне" Ю.Хадыка. Да Ю.Хадыкі падыйшлі два міліцыянты і далі позвы. Адну позву ў суд на 13 верасьня за ўдзел у сьвяце "Провады Лукашэнкі", якое было 21 ліпеня. Другую позву – у Савецкі РАУС г. Мінску для складаньня пратаколу аб адміністратыўным правапарушэньні па артыкуле 167.1 частка 2 (за ўдзел у шэсьці з нагоды Дня Незалежнасьці 27 ліпеня.) У гэты ж час Ю.Хадыка даведаўся, што ён аштрафаваны судом Савецкага раёну на 150 млн. рублёў 31 траўня. Суд адбываўся ў адсутнасьць Ю. Хадыкі. Яго асудзілі за тое, што ён прыйшоў паглядзець на мітынг, які праводзіла Асацыяцыя Маладых Палітыкаў. У гэты час Ю.Хадыку сфатаграфавалі міліцыянты і на падставе фотаздымкаў судзілі. Такім чынам, у судзе судзілі не Ю.Хадыку, а ягоны фотаздымак. У парушэньне арт. 247 КаАП РБ судзьдзя Савецкага раённага суда г. Мінску Л.Савасьцян прыцягнула Ю.Хадыку да адміністратыўнай адказнасьці ў ягоную адсутнасьць, чым пазбавіла яго магчымасьці бараніць сябе ў судовым працэсе, карыстацца дапамогай адваката. Трэба адзначыць, што гэта ўжо ня першы выпадак, калі судзьдзі ў парушэньне закону прыцягваюць людзей да адміністратыўнай адказнасьці "завочна", у іх адсутнасьць. Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96" падаў скаргу на пастанову суда Савецкага раёну г. Мінску на імя старшыні Мінскага гарадзкога суда. У выпадку адмоўнага рашэньня скарга будзе накіраваная ў Вярхоўны суд Рэспублікі Беларусь.

*8 верасьня* ў г. Мінску адбыліся сьвяточнае шэсьце і мітынг з нагоды Дня беларускай вайсковай славы (485-ыя ўгодкі перамогі войска Вялікага Княства Літоўскага над войскамі Маскоўскага княства пад Оршай у 1514 г.). У гэты дзень былі запланаваныя шэсьце, тэатралізаваная імпрэза (рыцарскі турнір) і рок-канцэрт вядомага беларускага гурта "Н.Р.М." Сьвяткаваньне, наладжанае апазіцыяй, супала з візітам у Беларусь новага расійскага прэм'ера Уладзіміра Пуціна, які ў гэты дзень меў сустрэчу з А. Лукашэнкам. Акцыя пачалася шэсьцем з плошчы Парыжскай камуны да парку Янкі Купалы. Дэманстранты несьлі плакаты з антыінтэграцыйнымі лозунгамі, а дзяўчаты адорвалі ўсіх мужчын кветкамі і віншавалі іх са сьвятам. Але ўлады чарговы раз вырашылі сапсаваць сьвята, наладжанае апазіцыяй. Перад пачаткам рок-канцэрту раптоўна была адключаная электрычнасьць, у выніку чаго канцэрт, якога асабліва чакала моладзь, не адбыўся. Акрамя таго, падчас імпрэзы прыкладна каля дзесяці прадстаўнікоў праворускіх неанацысцкіх груповак наладзілі правакацыю супраць удзельнікаў акцыі апазіцыі. Спачатку яны пачалі чапляцца да чарнаскурага беларускамоўнага падлетка, які актыўна ўдзельнічае ў апазіцыйных акцыях. Але за яго заступіліся сябры. Пачалася бойка, у выніку якой фашысты былі вымушаныя ўцячы, а двух з іх дэманстранты здалі міліцыі.

*8 верасьня* падчас сьвяткаваньня Дня вайсковай славы, якое праходзіла ў Мінску ў скверы Янкі Купалы, міліцыянты запрасілі ў РАУС Цэнтральнага раёну на 10 верасьня дэпутата Вярхоўнага Савету 13-га скліканьня, вядомага праваабаронцу В.Шчукіна. У пры-

значаны час В.Шчукін прыйшоў у РАУС. З ім размаўляў намесьнік загадчыка аддзелу прафілактыкі і аховы грамадзкага парадку. Прычына запрашэньня В.Шчукіна была ў тым, што судзьдзя суда Цэнтральнага раёну А.Барысёнак вярнуў у міліцыю пратакол, які міліцыянты склалі на В.Шчукіна за ягоны ўдзел у сьвяце "Провады Лукашэнкі", і запатрабаваў скласьці пратакол згодна з патрабаваньнямі КаАП. Справа ў тым, што пратакол быў складзены завочна,без удзелу В.Шчукіна, што зьяўляецца парушэньнем закону. У В.Шчукіна ўзялі тлумачэньні і запісалі іх. Упершыню складальнік пратаколу згодна з артыкулам 232 КаАП ацаніў паказаньні міліцыянтаў і Шчукіна і ўбачыў, што з паказаньняў міліцыянтаў не вынікае вінаватасьць В.Шчукіна. Супрацоўнік міліцыі не знайшоў падставаў для складаньня пратаколу, і Шчукіна ўлады вымушаныя былі адпусьціць.

*9 верасьня* завяршыўся суд над былым старшынёй праўленьня Ашчаднага банку Рэспублікі Беларусь Уладзімірам Хілько. Судзьдзя Алена Сямак абвясьціла прысуд: тры з паловай гады пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму і кампенсацыя дзяржаве стратаў у памеры 3 млн. даляраў. Уладзімір Хілько сваёй віны не прызнаў.

*10 верасьня* каля Трактарнага заводу адбыўся пікет, наладжаны БНФ "Адраджэньне". Падчас пікету быў затрыманы сябра Маладога Фронту Зьміцер Бунчук, які распаўсюджваў выданьне Праваабарончай Камісіі Маладога Фронту "Моладзь за Волю". З.Бунчука даставілі ў РАУС Партызанскага раёну г.Мінска, дзе спачатку канфіскавалі выданьне, пасьля ўмяшальніцтва старшыні Праваабарончай Камісіі МФ Вадзіма Канапацкага канфіскаваныя асобнікі вярнулі, а З.Бунчука адпусьцілі.

*14 верасьня* зранку дзьве асобы ў цывільным спрабавалі ўвайсьці ў кватэру Юрыя Хадыкі — намесьніка старшыні Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне". У гэты час у кватэры знаходзіўся сын Ю.Хадыкі, які, нягледзячы на тое, што асобы ў цывільным прадставіліся супрацоўнікамі міліцыі, не ўпусьціў іх у кватэру, бо яны не паказалі ні службовых пасьведчаньняў, ні санкцыі на вобыск, які планавалі правесьці.

**Інфармацыйны аддзел "Вясны-96"**

# Узгадалі праз чатыры месяцы

Раніцай 6 верасьня ў Брэсьце на кватэру да сябра Беларускай Сацыял-Дэмакратычнай Партыі «Народная Грамада» Ігара Сімчанкі зьявіліся супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, якія заявілі: «Вы затрыманыя па крымінальнай справе, вас трэба адвезьці ў Мінск». І.Сімчанку даставілі ў РАУС Маскоўскага раёну г.Брэсту, дзе пратрымалі да раніцы 7 верасьня (суткі). Потым з Мінску прыехалі два супрацоўнікі міліцыі ў цывільным, якія ў кайданках, на звычайнай электрычцы, адвезьлі І.Сімчанку ў Кастрычніцкі РАУС г.Мінску да сьледчага Анатоля Пазьняка, які нарэшце патлумачыў яму прычыну затрыманьня узяў падпіску аб нявыездзе і правёў допыт яго ў якасьці падазраваемага.

Справа ў тым, што 1 траўня І.Сімчанка прымаў удзел у Сьвяце працы на плошчы Незалежнасьці ў Мінску. І.Сімчанка ішоў у калоне, сфармаванай БСДП «Народная Грамада». Пасьля заканчэньня дэманстрацыі І.Сімчанка быў затрыманы ў ліку іншых удзельнікаў яе. На наступны дзень справу ўдзельнікаў дэманстрацыі 1 траўня разглядалі ў судзе Маскоўскага раёну г.Мінску. Судзьдзя Тройніч не знайшла складу адміністратыўнага правапарушэньня ў дзеяньнях дэманстрантаў і спыніла разгляд справаў. Сярод апраўданых быў і Ігар Сімчанка. Але падчас затрыманьня, пры даглядзе асабістых рэчаў І.Сімчанкі, была знойдзеная гумавая міліцэйская дубінка. Па словах І.Сімчанкі, ён працуе ахоўнікам, і забыў выкласьці дубінку з торбы. 1 траўня з І.Сімчанкі ўзялі тлумачальныя і гэтым абмежаваліся. Пра гэтую справу зноў узгадалі ў канцы ліпеня. І.Сімчанку прыйшла позва з патрабаваньнем зьявіцца 10 жніўня на допыт у якасьці абвінавачваемага ў Кастрычніцкі РАУС г.Мінску. Спроба І.Сімчанкі высьветліць, па якой справе ён выклікаецца, ні да чаго не прывяла.

8 верасьня І.Сімчанку было прад'яўленае афіцыйнае абвінавачаньне па арт. 213 ч. 3 КК РБ (нашэньне, выраб альбо збыт кінжалаў, фінскіх нажоў альбо іншай халоднай зброі без адпаведнага дазволу). Максімальнае пакараньне, прадугледжанае гэтым артыкулам, — пазбаўленьне волі тэрмінам на два гады. Да суда І. Сімчанка адпушчаны пад падпіску аб нявыездзе.

# Валютная гісторыя

(Пачатак на стар. 4-5)

З артыкулу "Канфіскавалі грошы, зьбілі ды яшчэ і пакрыўдзіліся", В. Факееў, "Народнае слова", 23. 02. 99 г.:

"...Не прайшло і дзьвюх гадзінаў, як знаёмая жанчына, падбегшы да яе прылаўку, крыкнула: "Там нехта твайго сына б'е! Каля ўваходу на рынак"...

А здарылася вось што. Чарга каля абменнага пункту цярпліва пераступала з нагі на нагу, калі да яе падыйшоў мужчына сярэдніх гадоў. Пацікавіўся курсам. Сын Лідзіі Дзенішчук Іван, які стаяў першым, спытаў у незнаёмца, ці будзе ён здаваць валюту. Той адказаў, што павінен параіцца з жонкай. У другім кіёску, які стаяў побач, валюту толькі куплялі. Калі што, сказаў хлопец, нясіце ў наш. Тут курс больш выгадны.

Вось і ўвесь крымінал. Але супрацоўнікам Полацкага ГАУС Петракевічу і Конашу размова падалася падазронай. Начальства патрабавала рашучых мераў у барацьбе з валютчыкамі, а тут рыбка сама ў сетку плыве. Яны падыйшлі да Івана і, сунуўшы яму ў твар чырвоную кніжку, прапанавалі прайсьці.

— Куды? — зьдзівіўся хлопец.

— Там даведаешся!

...У гэты момант падбегла Дзенішчук. Даведаўшыся, што сына падазраюць у незаконным набыцьці валюты, яна сама прапанавала пачаць разьбіральніцтва.

Міліцыянты і маці з сынам прайшлі ў будынак рынку. Але ў пакой падатковай інспекцыі, дзе адбываўся вобыск, Лідзію Іванаўну не пусьцілі.

Даляраў не знайшлі. Аднак грошы ў суме 17.610.000 рублёў канфіскавалі. Супрацоўнікі Полацкага ГАУС Тарасаў, Судак і Сьцяпанаў разышліся з Дзенішчук у разуменьні такіх высокіх матэрый, як мацярынскі абавязак (заступалася за сына) і сьвяшчэнная прыватная ўласнасьць (патрабавала вяртаньня незаконна адабраных грошай).

... Потым быў другі працэс. Дзенішчук мела сьмеласьць паскардзіцца на дзеяньні міліцыі ў Камітэт дзяржаўнага кантролю і пракуратуру вобласьці. А такое памкненьне да справядлівасьці лепш за ўсё тушыць сустрэчнымі зыскамі. І Полацкая пракуратура ўзбудзіла справу супраць яе па трох артыкулах: умяшальніцтва ў дзеяньні міліцыі, супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі, ілжэданос.

... Суд пакінуў у сіле адзін артыкул (супраціўленьне супрацоўнікам міліцыі) і прысудзіў Дзенішчук 20 мільёнаў рублёў штрафу. Лідзія Іванаўна і яе адвакат з гэтым рашэньнем не пагадзіліся па той прычыне, што дзеяньні супрацоўнікаў Полацкага ГАУС ад пачатку былі незаконнымі..."

З артыкулу "Суд над прыватнай прадпрымальніцай", "Кірмаш", 12. 03. 99 г.:

"... Сьведкамі супраць жанчыны выступілі шасьцёра супрацоўнікаў міліцыі, трое з якіх сьцьвярджалі, што сп. Дзенішчук іх ...зьбіла. Але падтрымка Лідзіі Іванаўны з боку Незалежнага прафсаюзу прыватных прадпрымальнікаў г.г. Полацку і Наваполацку, а таксама Хельсінкскага камітэту зрабіла сваю справу. Судзьдзя Машарскі прызнаў яе вінаватай толькі па адным пункце абвінавачаньня – перашкода законным дзеяньням міліцыі – і прысудзіў ёй 20-ці мільённы штраф.

... Але пракуратура не зьбіраецца здавацца. Пасьля чарговай размовы з прыватнай прадпрымальніцай, на якой высьветлілася, што жанчына вырашыла ісьці да канца ў справе абароны сваіх асабістых правоў і асабістай годнасьці, пракурор Полацку перадаў справу сп. Дзенішчук на разгляд новаму складу суда. Пазіцыя судовых уладаў зразумелая: альбо ты скарышся, альбо тваю крымінальную справу пастараюцца давесьці да "лагічнага канца..."

Здавалася б, гэтыя дакументы і публікацыі каментару не патрабуюць. Усё зразумела і без яго. Зразумела для грамадзяніна Беларусі, які ўжо прывык да таго, што ў абменных пунктах валюту купіць немагчыма, а любая спроба набыць яе "неафіцыйна" можа скончыцца 15 суткамі арышту, канфіскацыяй усіх наяўных грошай і вялізным штрафам. Абсурд? Так, але мы жывем у краіне абсурдаў. А калі чалавек пачынае пратэставаць ці бараніць свой гонар, то гэта для яго, як для нашай гераіні сп. Дзенішчук, можа скончыцца яшчэ і калецтвам...

**Сяргей ПАЎЛАЎ**

Аляксей ШЫДЛОЎСКІ

# Васемнаццаць месяцаў у пекле

Зона – гэта горад у горадзе. Тут ёсьць лазьня, шпіталь, сталоўка, бібліятэка, школа, ПТВ і аперчастка. На супрацьлеглым баку знаходзяцца баракі на 28 атрадаў. Самі гэтыя атрады падзеленыя на сектары, па 3 ці 6 атрадаў, у кожным з якіх па 100-120 чалавек. У кожнага сектара ёсьць свая асфальтаваная пляцоўка для прагулак, агароджаная металічнаю сеткаю. Выходзіць за межы гэтае пляцоўкі можна толькі падчас наведваньняў сталоўкі, шпіталю ці бібліятэкі.

У маім сектары было 3 атрады агульнай колькасьцю 320 чалавек, а пляцоўка займала плошчу каля 900 квадратных метраў (20x45). На пляцоўцы месьцяцца лаўкі, каб пасядзець, два дрэвы і сьметніца, вакол якой павінны зьбірацца аматары папаліць. Баракі – тыповыя памяшканьні казармавага тыпу, набітыя людзьмі "пад завязку". Трох'ярусныя нары, якія стаяць нават у "ленпакоях", разьмешчаныя настолькі шчыльна, што ступіць няма куды. У кожным бараку ёсьць тэлевізар, па якім зэкі звычайна глядзяць ці баевікі, ці канцэрты расійскай эстрады, толькі зрэдку пераключаючы на навіны ці футбол. Дзякуючы гэтаму за 9 месяцаў знаходжаньня ў зоне ад тэлевізару я проста адвык. Яшчэ ў бараках ёсьць чатырохмесная прыбіральня (туды заўсёды стаяць чэргі) і ўмывальнік, які адначасова зьяўляецца і кухняю, бо толькі там знаходзяцца разеткі, якімі можна карыстацца пры гатаваньні ежы. Вядома, там няма газавых плітаў, але да ўсяго звыклыя зэкі гатуюць пры дапамозе кіпяцільніка абсалютна ўсё: ад булёну да смажанага сала. Завяршае агульную карціну жылой зоны "пяты пост", ці, кажучы па-зэкаўску — "петушатня", месца, з якога па рупары выклікаюць вязьняў на працу, на "выхаваўчыя работы" ці на спатканьне з роднымі. Ёсьць у зоне і клуб, дзе па суботах і нядзелях паказваюць фільмы, і раз на два-тры месяцы да нядаўняга часу выступалі беларускія эстрадныя артысты. Апошнім часам яны перасталі наведваць зону, бо сапраўднай прычынай іх прыездаў была зусім не дабрачыннасьць, а тое, што да восені 98-га ў зоне знаходзіўся былы кіраўнік рэдакцыі музычных праграмаў Белдзяржтэлерадыё Бахціяр Бахціяраў, які і арганізоўваў гэтыя канцэрты.

Такая структура жылой зоны. Але існуе яшчэ і зона прамысловая, куды зэкаў выводзяць на працу. Там знаходзяцца разнастайныя цэхі: сталярны, цэх гарачых прэсаў, цэх па вырабу трунаў і інш. І асобна, паміж жылой і працоўнай зонай, стаіць штрафны ізалятар — памяшканьне, трапляць куды ня хоча ніхто.

Самому мне ў штрафным ізалятары пабыць, дзякуй Богу, не давялося, але з расповедаў сядзельцаў можна зрабіць выснову, што гэта куды горш, чым карцэр у СІЗА. Дзеля таго, што камеры там знаходзяцца пад зямлёю, тэмпература ў іх ніколі не падымаецца вышэй за 10 градусаў цяпла ўлетку, а зімою — вышэй за вулічную. Адтуль ужо праз 15 сутак можна выйсьці невылечна хворым.

Першы месяц знаходжаньня ў зоне праляцеў вельмі хутка: усё ж пасьля СІЗА гэта — як воля. Лісты з дому, ад сяброў, газеты – дапамаглі крыху адключыцца ад рэчаіснасьці. Крыху супакоіліся і "выхавальнікі". Але ў іх атрымалася перахапіць мой ліст у "Нашу Ніву" з вершамі. Аператыўнік, які перахапіў гэты ліст, напачатку нават забараніў мне пісаць лісты ўвогуле, акрамя як дадому. Ды ён ня ведаў, што ня з тым мае справу. Адна скарга ў пракуратуру, і дзеяньні аператыўніка былі кваліфікаваныя як незаконныя. Адміністрацыя, якую я вельмі раздражніў гэтаю скаргаю, накіравала ў пракуратуру мой ліст з вершам "Зомбі" і з просьбаю ўзбудзіць супраць мяне крымінальную справу па артыкуле 67 КК РБ "заклік да захопу ўлады". Але пракуратура, на шчасьце, абмяжоўваецца папярэджаньнем. Наступны мой крок – некалькі лістоў у незалежныя выданьні і хадатайніцтва аб умоўна-датэрміновым вызваленьні, якое мне ўжо надыйшло па тэрміну. Паколькі я ня меў ніводнага парушэньня рэжыму – прычыны адмовіць мне ў ім не было. 30-га ліпеня зранку мяне запрасілі прайсьці камісію на вызваленьне, але... з падачы начальніка атраду Жанеўскага, які, дарэчы, адразу пасьля гэтага сыйшоў працаваць у КДБ, мне адмаўляюць у вызваленьні па прычыне "недастатковай вывучанасьці". Мяне гэтая адмова шакіравала: замест блізкае Волі мне трэба было вяртацца ў сваю камеру.

Можна яшчэ доўга распавядаць пра тое, як з падачы операў я прынёс з доўгатэрміновага спатканьня шэсьць кілаграмаў ежы, якую мне перадалі бацькі, замест 25-30, якія несьлі астатнія. Можна прыгадаць, як зьнікалі дзесяткамі лісты, накіраваныя мне, і мае, адпраўленыя сябрам (усяго "не дайшло" каля 100 дасланых мне лістоў ). Каб я не пісаў у газеты, мяне накіравалі на вельмі шкодную працу ў цэх па фаніроўцы мэблі. Аманціт, лак, апіакт – усё гэта вынішчала і вынішчае зараз лёгкія вязьняў, якія працуюць у цэхах часам і ў дзьве зьмены, а атрымліваюць за гэта капейкі. Я зарабляў у час свайго знаходжаньня ў зоне 100.000 рублёў у месяц — менш за даляр, які каштаваў 180.000. Набыць на іх можна было толькі адзін пачак маргарыну ці, на выбар, пару пачкаў цыгарэт. Працаваць за такія грошы і гробіць сваё здароўе сэнсу ня мела, таму я ўсяляк прагульваў працу. Дзякуй Богу, быў чалавек, які пісаў даведкі аб маім дрэнным стане здароўя, і я мог легальна суткамі знаходзіцца ў бараку і пісаць вершы, лісты знаёмым і ў газеты, чытаць...

Выратаваньнем для мяне было і чытаньне кніжак. Акрамя турэмнай, існуе яшчэ і "зэкаўская бібліятэка". У кожнага вязьня ёсьць дзьве-тры добрыя кнігі. Людзі вызваляюцца і пакідаюць іх сябрам — так у атрадах назапашваецца даволі высокаякасная чытаніна. Дастаеўскі і Вельлер, Ясенін і Купала. Яны былі там разам са мною, і іх творы давалі жыцьцё маім марам, думкам, не дазвалялі мне маральна "паміраць". "Гуляла" па зоне і кніга Уладзіміра Кудзінава. Яе чыталі былыя старшыні калгасаў, банкіры і бізнесьмены. Тыя, з кім здарылася нешта падобнае, але, "дзякуючы" іхняй незаангажаванасьці ў палітыцы пра іх ніхто ня ведае, не гаворыць, і шанцу стаць "незаконна асуджанымі" у іх проста няма.

Пасьля адмовы ў датэрміновым вызваленьні чакаць мне больш не было чаго, заставалася толькі правесьці астатнія сем месяцаў у зоне на колькі магчыма так, як я лічыў патрэбным. Я пачаў пісаць. Вершы, артыкулы, міні-апавяданьні, усё дасылаючы ў незалежную прэсу. Спачатку адміністрацыя спрабавала перашкодзіць мне, пагражала штрафным ізалятарам, пабоямі і перасылкай на іншую зону, але пасьля махнула рукою, здалася. І на гэты раз мая ўпартасьць дала нейкую карысьць.

З часам я пачаў заводзіць знаёмых. Людзей у розных атрадах, розных кутках зоны, якія падтрымлівалі мяне, і ў якіх я быў упэўнены. Часам мы зьбіраліся разам і расказвалі адзін аднаму апошнія паведамленьні. Хтосьці нешта чуў з вуснаў дасьведчаных асобаў, у кагосьці ў бараку прымалася радыё "Свабода", я ж забясьпечваў усіх незалежнай прэсай. Гэтыя сустрэчы ў зэкаўскай школе пад покрывам ночы нагадвалі карціну аднаго вядомага савецкага мастака "Ваеннапалонныя слухаюць Маскву", дзе каля дзесятку савецкіх салдатаў у фашысцкім канцлагеры, прыклаўшы вуха да самаробнага радыё, слухаюць левітанаўскія паведамленьні.

Час ляцеў, пасьля запаволіўся, а пад канец увогуле амаль спыніўся.

Ужо нішто ня радавала мяне – ні газеты, ні лісты, ні нават радыё, якое я ўключаў на поўны гук, каб усе чулі. Дні цягнуліся. Адзіны, хто дапамагаў мне перажываць рэшткі майго тэрміну, быў мой новы сябра.

*(Працяг будзе)*

*(Працяг.
Пачатак у №№ 31-34, 36-40)*

**Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96".
Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў.
Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mal:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку абавязковая спасылка на бюлетэнь.**

*У нумары скарыстаныя фотаздымкі з архіву Цэнтру "Вясна-96"*